РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 33 (89) 14 – 20 кастрычніка 1994 г. Кошт 50 рублёў

«Крадзі, Ігнась, пакуль савецкая ўласьць», Альбо жменька нататак пра калгасны статак - ст. 3.

Польская паліцыя не знаходзіць дзейсных мер у барацьбе нават з дробнымі злачынцамі з Усхода - ст.4.

Пакуль маўчаць нашыя гісторыкі, паміраюць апошнія сьведкі і ўдзельнікі падзей - ст. 5,6.

ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск – Варшава – Масква - Санкт-Пецярбург.

## ЗАЯВА ГАРАДЗЕНСКАЙ АБЛАСНОЙ І ГАРАДЗКОЙ РАДАЎ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ «АДРАДЖЭНЬНЕ».

У сувязі с падзеямі, якія адбыліся ў Горадні раніцай 5-га кастрычніка перад будынкам гарвыканкаму, а таксама ў сувязі с распаўсюджваньнем ілжывых чутак пра гэтыя падзеі, Гарадзенская абласная і гарадзкая Рады БНФ "Адраджэньне" заяўляюць наступнае:

Упершыню ў шасьцігадовай гісторыі БНФ "Адраджэньне", у час выстаўленьня пікету на нашых прадстаунікоў, а таксама на прадстаўнікоў Дэмакратычнага аб'яднаньня ветэранаў быў зроблены напад (парваны бел-чырвона-белы сьцяг, частка нашых плакатаў) і распачата бойка. Гэта зрабілі прадстаўнікі праімперскіх, пракамуністычных арганізацый Горадні: ПКБ, Славянскі Сабор "Белая Русь", Саюз моладзі, гарадзская арганізацыя ветэранаў, Саюз афіцэраў і іншых. Але гэтыя экстрэмісты атрымалі годны адпор з боку прадстаўнікоў БНФ і Дэмакратычнага аб'яднаньня ветэранаў. У той жа час мы ведаем, што большасьць людзей, якія прысутнічалі пры гэтых ганебных падзеях з супрацьлеглага боку, былі ўцягнуты ў іх з дапамогай ілжывай агітацыі і падману.

Мы лічым, што падзеі, якія адбыліся, сьведчаць аб тым, што праімперскія і пракамуністычныя сілы адчулі небясьпеку для сябе з-за таго, што народ Беларусі пачынае адчуваць сваю годнасьць і адказнасьць за лёс Бацькаушчыны.

Мы яшчэ раз нагадваем, што Беларускі Народны Фронт заўсёды стаяў і стаіць толькі за мірны шлях дасягненьня сваіх мэтаў. За намі праўда.

Грамадзяне Беларусі! Не дазволім утварыцца на нашай зямлі другому Карабаху.



РАЗВІТАНЬНЕ. Фатаграфаваў А.ЎЛАДАСЕВІЧ.

## АЎГУСТОЎСКІ КАНАЛ БУДЗЕ ДЗЕЙНІЧАЦЬ?

5-7 кастрычніка на Гарадзеншчыне знаходзіўся прадстаўнік ААН М.Каханэ, якога суправаджаў міністр прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Беларусі А.Дарафееў. Мэта візіту - азнаёміцца з магчымасьцю рэканструкцыі Аўгустоўскага канала, які злучае польскія і беларускія рэкі і мог бы выкарыстоўвацца суседнімі краінамі ў сферы гандлю і турызму. Беларускі бок распрацаваў праектна-сметную дакументацыю ў цэнах 1991 года па рэканструяваньню сваёй часткі воднай артэры, але з-за фінансавых цяжкасьцяў работы па яго аднаўленьню былі спынены.

Пад час візіту разглядалася магчымасьць аказаньня фінансавай дапамогі міжнароднымі арганізацыямі (ААН, ЮНЭСКА) па рэканструкцыі трох кіламетраў беларускага адрэзку Аўгустоўскага канала.

З гэтай нагоды М.Каханэ сустрэўся з першым намесьнікам старшыні Гарадзенскага аблвыканкама М.Калацэям, старшынёй вабласнога камітэта па экалогіі П.Путро, зацікаўленымі асобамі з польскага боку, азнаёміўся з адпаведнай літаратурай, пабываў на самім канале.

А.ДУК.

# ГІСТОРЫЯ ІМ НЕ НАВУКА

**5 кастрычніка пасьля тыднёвага перапынку аднавіла сваю работу сесія Гарадзенскага гарадзкога Савета народных дэпутатаў, якая павінна была вырашыць пытаньне перайменаваньня і вяртаньня гістарычных назваў некаторым вуліцам горада. Ёй папярэднічаў інцыдэнт, які паказаў, што пракамуністычна і праімперска настроеныя сілы Беларусі (прынамсі некаторыя іх члены) здольны даказваць сваю праваты толькі з дапамогай кулакоў.**

У гэты дзень прадстаўнікі Беларускага Народнага Фронту, альтэрнатыўнай ветэранскай арганізацыі, грамадзка-палітычнага аб'яднаньня імя К.Каліноўскага вырашылі выставіць перад будынкам гарвыканкама пікет у падтрымку таго, каб назвы вуліцаў Горадні былі пазбаўлены палітычнага зьместу. Але гэта не ўваходзіла ў планы прыйшоўшых на пляц больш паўсотні чалавек "левых": членаў НРБ, Саюза Афіцэраў, Славянскага Сабора, ПКБ, ЛКСМБ, ветэранаў, якія ўбачыўшы бел-чырвона-белы сьцяг, пачалі лямантаваць: "Вон отсюда, фашисты. Вам нечего тут делать. Сколько долларов вам заплатили?" А зразумеўшы, што іх значна болей, пачалі дзейнічаць: штурхаць дэмакратаў, хапаць за адзеньне, вырываць з рук і рваць плакаты і сьцяг, а некаторых біць кулакамі і нават палкамі, у выніку чаго расьсеклі брыво прафесару Гарадзенскага медыцынскага інстытута А.Астроўскаму. Толькі кроў апошняга ахалодзіла пыл чырвона-карычневых. Напэўна, хапіла розуму ўсьвядоміць, што далейшае разьвіцьцё падзей можа быць не на іх карысьць.

Калі, як кажуць, інцыдэнт быў вычарпаны, з'явіліся супрацоўнікі міліцыі (цяжка паверыць, што іх калегі, пераапранутыя ў цывільнае, не былі дзесьці побач у час бойкі). Завадатары беспарадку пачалі пераконваць іх, што "всё начали" іх праціўнікі. Вінаватых не знайшлі (ці не сталі шукаць?).

А потым была сесія. Пачалася яна з зачытаньня старшынёй гарсавета Г.Крупенка зварота гарадзкой арганізацыі саюза "Ачышчэньне" да дэпутатаў, у якім патрабавалася зьняць з парадку дня сесіі пытаньне аб перайменаваньні вуліц "инициированное течениями правого толка". Маўляў, яно падзяляе жыхароў Горадні на два варожых лагеры, а станоўчае вырашэньне яго запатрабуе значных сродкаў, якія б можна было накіраваць на паляпшэньне дабрабыту людзей.

Своеасаблівым адказам "ачышчэнцам" можна лічыць выступ намесьніка старшыні гарвыканкама, старшыні гарадзкой тапанімічнай камісіі А.Мілінкевіча. Ён нагадаў дэпутатам, што і заканадаўства краіны, і адпаведныя рашэньні вабласнога і гарадзкога Саветаў рэкамендуюць мяняць палітызаваныя назвы вуліц, і што вызначэньнем таго, якія з іх трэба перайменоўваць займаецца камісія ў складзе 24 чалавек, сярод якіх тры прафесары, 6 дацэнтаў - людзі розных палітычных поглядаў. Аляксандр Уладзіміравіч падкрэсьліў, што насельніцтва пераважна абыякава ставіцца да перайменаваньня . Ім была выказана нязгода з тым, што прапануемыя назвы антысавецкія, паланістычныя, русафобскія. Ён, у прыватнасьці,паведаміў, што беларус па нацыянальнасьці, і што ніхто не зьбіраецца мяняць назву вуліцы Карбышава, які з'яўляецца ўдзельнікам абароны Горадні ў чэрвені 1941 года, а той жа Пажарскі - не паплечнік Мініна, а афіцэр, які загінуў у 1938 годзе ля возера Хасан. Па словах спадара Мілінкевіча, выдаткі, зьвязаныя з перайменаваньнем, мізерныя, і нават знойдуцца спонсары, якія прафінансуюць яго. Выказаўшы павагу да ветэранаў, іх рабоце па патрыятычнаму выхаваньню моладзі, ён сказаў: "Нельга выхаваць патрыятызм толькі на глебе Вялікай Айчыннай вайны".

У падтрымку прапаноў тапанімічнай камісіі выказаліся дэпутаты гарсавета Ю.Мацко, У.Волкаў, А.Чырун, дэпутаты аблсавета А.Пяткевіч, В.Задаля, нагадаўшы прысутным, што ў той жа Расеі мяняюць ня толькі назвы вуліц, але і гарадоў. А Т.Маліноўская прапанавала стварыць часовую камісію па збору сродкаў на перайменаваньне вуліц і заклікала адмовіцца ад палітычных гульняў.

Супрацьлеглыя думкі выказаны А.Філінам і Г.Гірасам, апошні нават прапанаваў аб'явіць мараторый на дзейнасьць гарадзкой тапанімічнай камісіі.

Потым пачалося галасаваньне. Больш за 61 дэпутата (колькасьць галасоў, неабходная для прыняцьця станоўчага рашэньня) выказалася за тое, каб вуліца Учхозаўская насіла імя Я.Каханоўскага, заснавальніка адзінага ў рэспубліцы Гарадзенскага заапарка, Чапаева - імя М.Васілька, беларускага паэта, які ў свой час жыў на ёй, бульвар 60 год Кастрычніка - імя Я.Купалы, а вуліца і завулак Я.Купалы назву Купальская(-і).

Двух галасоў не хапіла для вяртаньня вуліцы Р.Люксембург яе ранейшай назвы Ф.Грынькевіча, рэлігійнага дзеяча, педагога, першага кіраўніка Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі, трох - каб вуліца Пажарская па-ранейшаму называлася у гонар К.Бекеша (венгр, палітычны і вайсковы дзеяч Вялікага Княства Літоўскага), чатырох - для перайменаваньня вуліцы Бялінскага ў К.Агінскага і дзевяці - каб Сацыялістычная зноў насіла імя славутага князя Вітаўта.

Захавалі свае назвы таксама вуліцы Ўрыцкага і Ціміразева. За перайменаваньне іх у Залатарскую і Станіслававa прагаласавала адпаведна 52 і 42 дэпутаты.

Як бачна, вынік сьціплы. Але будзем спадзявацца, што хутка прыйдзе час, калі ў абарону таго, каб горад меў сваё, непаўторнае аблічча, выступяць не дзесяць ці сто яго жыхароў, а ўсё насельніцтва, і ў яго хопіць розуму выбраць дэпутатамі людзей, якія б паспрыялі адраджэньню гісторыі і культуры Горадні, усёй Беларусі.

А.ДУК.

P.S. *Як паведаміў начальнік аддзела ўнутраных спраў Ленінскага райвыканкама Горадні А.Савошчык, крымінальная справа па інцыдэнту, які адбыўся 5 кастрычніка на плошчы Леніна, не ўзбуджалася, бо пацярпелыя не пададзена адпаведнай заявы.*

*Хочацца думаць, што адбыўшаеся - не факт мясцовага значэньня, бо ў гэты дзень упершыню за час існаваньня незалежнай Беларусі падчас высьвятленьня адносін паміж палітычнымі праціўнікамі праліліся кроў. Упершыню "левыя" вырашылі даказаць сваю праваты з дапамогай сілы. Што гэта: агонія ці рэпетыцыя новых метадаў барацьбы? Калі першае, дык неяк выцерпім, а калі другое, то гэта ўжо небясьпечна. Шлях да канфрантацыі, супрацьстаяньня можа прывесьці да расколу грамадзтва на два сапраўды варожых лагеры. Малая кроў можа пацягнуць за сабой вялікую. А можа не ў назвах вуліц ці дзяржаўных сымболях тут справа? А ў тым, што "левыя" здаюць свае пазіцыі і губляюць прыхільнікаў, а раскол у іх шэрагах узлавў іх, і яны вырашылі, паказаўшы зубы, прыцягнуць да сябе увагу грамадзкасьці? Дык маскоўскія падзеі гадавой даўнасьці паказалі, да чаго гэта даводзіць.*

## ШТО ГОД НАСТУПНЫ НАМ РЫХТУЕ?

Як паведаміў першы намесьнік Старшыні праўленьня Нацбанка М.Кузьміч, з 1-га студзеня 1995 года мяркуецца адмяніць абмежаваньне для юрыдычных асоб на абнаўліваньне грошай з рублёвых рахункаў, якое дзейнічае зараз. На яго думку, гэта ненармальная з'ява, калі для наяўных грошай існуе адзін курс даляра, а для безнаяўных - другі. Па словах М.Кузьміча, супраць прыняцьця рашэньня выступае Міністэрства ўнутраных спраў, але Нацбанк зьбіраеца адстойваць сваю пазіцыю.

На думку экспертаў, магчымасьць бесперашкоднага перавядзеньня "нал" у "безнал" і наадварот аблегчыць "адмываньне" грошай ценявымі і мафіёзнымі структурамі, але гэта меншае зло, чым існаваньне ў адной краіне, па сутнасьці двух валют - наяўнай і безнаяўнай.

* * *

Гандаль за валюту пасьля 1-га студзеня 1995 года будзе забаронены. Рашэньне аб гэтым ня даўна прыняў Нацбанк Беларусі. Усе валютныя секцыі крамаў будуць весьці на гандаль за беларускія рублі. На думку кіраўніцтва банка, гэта павінна садзейнічаць умацаваньню курса нацыянальнай валюты.

Раней кіраўнік НБ РБ С.Багданкевіч заяўляў, што на руках у насельніцтва захоўваецца каля 1 млрд. даляраў.

* * *

Рэжым бязмытнага гандлю з Расеяй падоўжаны да новага года - аб гэтым заявіў міністр зьнешнеэканамічных сувязей М.Марыніч. Як вядома, Расейскі бок адмяніў мыта на гандаль з Беларусьсю ў чэрвені гэтага года, у сувязі з падпісаньнем пагадненьня аб аб'яднаньні фінансавых сістэм краіны. Тэрмін дзеяньня бязмытнага рэжыма гандлю з Беларусьсю скончыўся 1 кастрычніка. На мінулым тыдні М.Марыніч і віцэ-прэм'ер В.Кокараў адляталі ў Маскву, дзе вялі перамовы з расейскімі віцэ-прэм'ерамі А.Шохіным і С.Саскаўцом. У выніку было дасягнута пагадненьне аб падаўжэньні бязмытнага рэжыму яшчэ на 3 месяцы. Пытаньне аб рэжыме гандлю на 1995 год застаецца адкрытым. Беларускаму баку не ўдалося пераканаць расейцаў захаваць на будучы год клірынгавы тавараабмен паміж дзьвюма дзяржавамі.

СІМ



ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

# МЭТЫ І ЗАДАЧЫ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ПАРТЫІ

Беларуская нацыянальная партыя (БНП) - пераемніца нацыянальна-дэмакратычных і хрысьціянска-дэмакратычных традыцый, што існавалі на Беларусі перад прыходам сталінскага генацыду.

БНП узьнікла ў выніку якаснага пераўтварэньня Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі (НДПБ), перапрацоўкі яе ідэалагічных прынцыпаў. У выніку, была створана праграма БНП, якая захавала ўвесь шэраг ідэй НДПБ, нясе новы падыход да праблемы стварэньня і ўмацаваньня незалежнай беларускай дзяржавы, вываду яе з таго глыбокага крызісу, дзе яна апынулася ў выніку здрады ўрада Беларусі свайму народу.

БНП, з'яўляючыся антыкамуністычнай партыяй, тым не менш лічыць, што большасьць сучасных партый і рухаў, якія сябе называюць дэмакратычнымі, па сутнасьці, толькі псеўдадэмакратычныя. Яны ня здольныя паказаць беларускаму народу шлях да эўрапейскай дэмакратыі, дух бальшавізму яшчэ моцны ў гэтых арганізацыях. Таму БНП лічыць, што пра дэмакратыю як бліжэйшую мэту гаварыць яшчэ рана.

БНП прапануе іншы шлях - шлях кансалідацыі беларускага народа вакол нацыянальнай ідэі.

БНП - партыя кожнага беларуса. Але і грамадзянам іншых нацыянальнасьцяў, якія жывуць на тэрыторыі Беларусі, усьвядамленьне нацыянальнай ідэі адкрывае выразную перспектыву заняць сваё месца ў пабудове будучай дэмакратычнай і незалежнай Беларусі.

БНП, правая партыя хрысьціянска-дэмакратычнага накірунку, **абвяшчае наступныя мэты:**

БНП змагаецца за адраджэньне і развіццё беларускай нацыі, за тое, каб яна заняла сваё пачэснае месца сярод іншых народаў сьвету.

БНП - за адбудову незалежнай саборнай дзяржавы Беларусь, якую насяляе толькі адзін народ - беларускі, на гістарычнай тэрыторыі якога жылі і будуць жыць этнічныя групы: расейцы, палякі, украінцы, габрэі і іншыя.

**Галоўныя прынцыпы:**

1. Нацыяналізм, як лепшая духоўная якасьць асобы чалавека. Настаў час вярнуць гэтаму слову яго спрадвечны станоўчы сэнс. Нацыяналізм - гэта адданасьць сваёй нацыі, нацыяналізм - гэта змаганьне за волю і незалежнасьць, за яе духоўную і фізічную моц, за правы нацыі быць роўнай сярод роўных.

2. Нацыянальная ідэя зьяўляецца для нас першараднай. Яна - самы галоўны з усіх чалавечых набыткаў у сферы грамадзкага жыцьця. Дэмакратычнае грамадзтва - гэта тая мэта, да якой павінен прыйсьці наш народ, і галоўным механізмам для дасягненьня яе зьяўляецца менавіта нацыянальная ідэя.

3. Ідэя нацыянальнай велічы Беларусі. Народ Беларусі павінен усьвядоміць сваю нацыянальную веліч і магутнасьць, як гэта было ў часы беларускай дзяржавы - Вялікага княства Літоўскага. Традыцыі ВКЛ павінны аднавіцца, а Беларусь павінна стаць адным з буйнейшых асяродкаў Эўрапейскай палітыкі.

4. БНП за абсалютную каштоўнасьць жыцьця, свабоду, самабытнасьць кожнага чалавека і кожнай нацыянальнасьці, што ёсьць на Беларусі.

5. Прыватная ўласнасьць - гэта аснова эканамічнай незалежнасьці, высокай эфектыўнасьці працы і палітычнай свабоды чалавека. Яна з'яўляецца недатыкальнай і сьвятой.

6. Нацыянальнае адраджэньне - з'яўляецца галоўнаяй часткай духоўнага адраджэньня.

БНП за адраджэньне і развіццё беларускай духоўнасьці на прынцыпах патрыятызму, традыцыяналізму, хрысьціянскай этыкі і маралі.

7. Канцэпцыя развіцьця Беларусі павінна складацца з паяднаньня нацыянальнага і дзяржаўнага элементаў. Дзяржаўная палітыка павінна грунтавацца на нацыянальных інтарэсах беларусаў.

Прынята на з'ездзе БНП летась у Менску.

## ПРЭЗЫДЭНТА ЖАДАЮЦЬ ДАВЕСЬЦІ ДА ГАЛЕЧЫ

Генэральны дырэктар ВА "Бабруйскдрэў" У.Таранаў зьвярнуўся ў Вярхоўны Суд Беларусі з іскам аб абароне гонару і годнасьці да Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнкі і рэдакцыі газеты "Звязда". Справа ў тым, што 6-га ліпеня сёлета ў час "прамой лініі" з чытачамі "Звязды" тады яшчэ кандыдат у прэзыдэнты А.Лукашэнка назваў спадара Таранава злодзеем і патрабаваў вярнуць дзяржаве прысвоеную валюту. Праз тры месяцы абражаны гендырэктар, які лічыць сябе сумленным чалавекам, успомніў гэтую публікацыю і настойвае на тым, каб і Прэзыдэнт, і газета прынесьлі яму публічныя прабачэньні, а таксама выплацілі яму ў парадку кампенсацыі маральных стратаў 10 млн. рублёў. Аналагічны іск да А.Лукашэнкі і "Звязды" яшчэ з дапрэзыдэнцкіх часоў знаходзіцца ў Савецкім нарсудзе Менска. Экс-міністр абароны П.Казлоўскі таксама патрабуе ад прэзыдэнта прабачэньняў і выплаты 30 млн.рублёў.

## РЭСПУБЛІКАНСКАЯ ПАРТЫЯ - ЗА МОЦНУЮ ДЗЯРЖАВУ

Як паведаміў намесьнік старшыні Рэспубліканскай партыі А.Бадзілоўскі, РП выступае за моцную дзяржаву, якая абапіраецца на ўласныя сілы. "Ніхто не дапаможа нам, ні Захад, ні Ўсход, - лічыць спадар Бадзілоўскі. - Неабходна абапірацца на ўласную інтэлектуальную эліту." Па яго словах, сярод заснавальнікаў партыі шмат навукоўцаў і прадпрымальнікаў, але назваць канкрэтных бізнэсмэнаў ён адмовіўся. У партыю ўвайшлі, у асноўным, людзі сярэдняга ўзросту. Намесьнік старшыні РП таксама заявіў, што яго партыя зойме ў палітычным сьпектры Беларусі цэнтрысцкі стан. Па яго словах, на момант рэгістрацыі ў траўні бягучага года ў партыі было 120 чалавек, а да канца года колькасьць членаў партыі павялічыцца да тысячы.

## ГАЛОЎНАКАМАНДУЮЧЫ АКАЗАЎСЯ ПРАВЫ

Былы міністр абароны Беларусі П.Казлоўскі, паніжаны ў званьні А.Лукашэнкам, і тры яго намесьнікі - Зуеў, Дзямідзік і Сікора - звольненыя са сваіх пасад, зьвярнуліся ў камісію ВС па пытаньнях абароны і нацыянальнай бясьпекі з прозьбай абскардзіць адпаведныя прэзыдэнцкія ўказы ў Канстытуцыйным судзе. Аднак, парламенцкая камісія не стала зьвяртацца ў КС, бо, па заключэньню юрыдычнага аддзела ВС, А.Лукашэнка, які з'яўляецца Галоўнакамандуючым узброеных сіл Беларусі, дзейнічаў у рамках сваёй кампетэнцыі і не парушыў ні Канстытуцыі рэспублікі, ні іншых законаў.

## ПРЭЗЫДЭНЦКАЙ ПАРТЫІ НЯ БУДЗЕ

Глава Адміністрацыі прэзыдэнта Л.Сініцын адхіліў заяву старшыні партыі Ўсебеларускага адзінства і згоды М.Шэляговіча ў тым, што ЎАПЗ будзе прэзыдэнцкай партыяй. Па словах спадара Сініцына, Прэзыдэнт будзе "над партыямі" і ня будзе аддаваць перавагу ні адной з іх. Глава Адміністрацыі зазначыў, што аб гэтым было прама сказана М.Шэляговічу падчас нядаўняй сустрэчы Прэзыдэнта з дэлегацыяй Партыі расейскага адзінства і згоды, на якой прысутнічаў лідэр УАПЗ.

**СІМ.**

## У МАСКВЕ АДНАЎЛЯЮЦЬ «КРАСНОЕ КРЫЛЬЦО». НА БЕЛАРУСІ ІРВУЦЬ ДЗЯРЖАЎНЫ ШТАНДАР

Тэлестудыя "Астанкіна" шырока асьвятліла рэстаўрацыі і адкрыцьцё "Красного крыльца" Маскоўскага Крамля. Расейскае дзяржаўнае тэлебачаньне ахвотна выкарыстоўвае ў сваіх перадачах песьні, выставы жывапісу, кінафестывалі, дзе прэвалюе патрыятызм. Усё гэта разам усприймаецца расіянамі як патрэбнае, бо менавіта такія праграмы ўздымаюць дух нацыі, гуртуюць яе.

У нас жа на Беларусі - зусім адваротнае. Як толькі дзе загучала патрабаваньне пра беларушчыну, адразу ж верашчаць славянскія саборы ды гэтак званыя народныя рухі: нацыяналісты, а то і зусім фашысты. Больш хітрыя ў шэрагах гэтых рухаў дзейнічаюць "исскуснее", чым апантаныя ідэяй братняга саюзу ўсіх славянскіх народаў вышэйзгаданыя арганізацыі. Перакідаючы цяжкае эканамічнае становішча нашай дзяржавы ў супрацьвагу адраджэньню на зямлі Беларусі дарагой майму сэрцу мінуўшчыны. Адна з такіх спробаў была нядаўна зьдзейсьнёна ў Горадні дэпутатам гарсавету Гірасам. Ах як выпінаўся гэты дэпутат у сваім артыкуле ў "Гродзенскай праўдзе", што трэба вырашаць набалелыя эканамічныя пытаньні, а не траціць час на наданьне вуліцам абласнога цэнтру гістарычных назоваў. Паўстае пытаньне, а дзе ж быў увесь час свайго дэпутацтва шаноўны дэпутат? Чаму не вырашаў эканамічных пытаньняў? Скажаце - ня меў сілы? Да народа трэба было зьвяртацца, як робіць гэта БНФ ды іншыя дэмакратычныя арганізацыі. Не зрабіў гэтага - сядзі і чакай, калі скончыцца твой тэрмін народнага абраньніка. Ня лі сьлёзаў кракадзіла і не пярэч тым дэпутатам, якія мэтанакіравана вось ужо **чатыры гады** робяць так патрэбную адраджэньню **беларускай дзяржаўнасьці** справу вяртаньня гістарычнай справядлівасьці. Можа, каб усе дэпутаты ў свой час зразумелі гэтую гістарычную неабходнасьць і падчас адной сесіі вырашылі справу з дзяржаўнымі сымболямі, перайменаванымі "запазычаных" тапанімаў, то хапіла б ды яшчэ і зьвярхом часу, каб недапусьціць дзяржаву да такога крызісу. Усходняя прымаўка згадвае: позна піць нарзан, калі ныркі адваліліся. На Беларусі пакуль што народнае выслоўе зразумелі далёка ня ўсе.

**Спадар.**

## У «АЧЫШЧЭНЬНІ» РАСКОЛ

Зрабіўшы некалькі паходаў па гарадзенскіх крамах, мясцовыя ачышчэнцы палічылі, што зрабілі значную дапамогу Прэзыдэнту і яго каманьдзе. Аб чым пасьпяшалі давесьці сталічнаму начальству.

На жаль, паходы па крамах і рапарты да Менску не задаволілі самую рэакцыйную частку члену "Ачышчэньня". Таму, на нядаўнім пасяджаньні ачышчэнцаў адбыўся раскол. Адны - за дапамогу Прэзыдэнту А.Р.Лукашэнка, другія - за аднаўленьне СССР і ўхваленьне ЦК КПСС.

**Г.В.**

## ЖЫВІ, БЕЛАРУСЬ!

Народ у зале ўвесь гудзе,
Што гэта? Сесія ідзе.
Прамоўцы выступаць гатовы,
Свае ўносяць прапановы.
Паслухаць іх, ну проста сьмех!
Як ім ня сорам, як ня грэх.
Так гвалтаваць Радзіму-маці,
Адзін другога папракаці,
Якая мова быць павінна
У нас галоўнай на Радзіме.
Яны гатовы здрадзіць, схлусіць
Любімай нашай Беларусі,
Яе ў калонію прадаць,
Сябе героямі назваць.
І толькі будзе той харошы,
Хто хоча мець чужыя грошы.
Дзівіся, беларускі люд,
Які яны зрабілі цуд.
Не дачакаемся ніяк,
Калі ўжо выступіць Пазьняк.
Заўсёды слухаць мы гатовы
Яго разумныя прамовы.
Калі ў мяне спытае хтосьці,
То я скажу ім, ягамосьці,
Зянон Пазьняк, ён не такоўскі,
А як Кастусь той Каліноўскі!

**Ніна ЯРМАЛІНСКАЯ,**
**выхавацель д/садка N 25, г.Салігорск.**



... І СЬНЯЦЦА СНЫ АБ БЕЛАРУСІ.







# ДА 55-Х УГОДКАЎ ЗАХОПУ ЧЫРВОНАЙ АРМІЯЙ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

**У гэтым годзе споўнілася 55 гадоў з таго часу, як 17 верасьня 1939 года Чырвоная Армія ўступіла на землі Заходняй Беларусі. З гэтай нагоды хочацца ўспомніць падзеі тых часоў, сьведкам якіх давялося быць. Пасьля развала СССР ў 1991 годзе падзеі 17 верасьня 1939 года чамусьці сталі рэдка ўспамінацца. Са старонак газет зьніклі артыкулы, у якіх паказвалася, якім вельмі "добрым" было далучэньне Заходняй Беларусі да БССР.**

Па змове Сталіна з Гітлерам аб падзеле Польшчы, заключэнні паміж імі сакрэтных дагавораў аб падзеле міру (сфераў уплыву), 1 верасьня немцы напалі на Польшчу. Пачалася Другая сусьветная вайна. Польская армія, у шэрагах якой было шмат беларусаў, гераічна абаранялася, але не магла супрацьстаяць нямецкай навале. Вайна ішла на захадзе Польшчы, а на ўсходзе было ўсё спакойна. І вось нечакана, 17 верасьня, здаецца, гэта была нядзеля, дзесьці каля 10-11 гадзін дня людзі ўбачылі на дарогах савецкія танкі, якія ішлі на захад. Праехаўшы вёску, калона спынілася на полі каля дарогі. З танкаў вылазілі танкісты ў шлемах і чорных камбінезонах. Людзі моўчкі глядзелі на танкі і на танкістаў. Некаторыя пачыналі гаварыць з імі, але тыя чамусьці неахвотна адказвалі і стараліся пазьбягаць кантактаў з насельніцтвам. Толькі некаторыя з іх (потым стала вядома, што гэта былі палітрукі) пачыналі гаварыць, што Чырвоная Армія прыйшла, каб вызваліць Заходнюю Беларусь, што Савецкая ўлада прынясе яе народу шчасьце і дабрабыт, што цяпер усё народнае, памешчыкам і капіталістам цяпер ня месца на Беларусі. Зямлю і маёмасьць ад памешчыкаў трэба забіраць.

Знайшліся ахвочыя пажывіцца чужым. Гэта былі, у асноўным, лайдакі, гаспадары, якія ленаваліся працаваць на сваіх гаспадарках, ахвочыя ўзяць чужое, калі з'яўлялася такая магчымасьць. Але такіх людзей было ня шмат. Яны пайшлі па дварах (маёнтках) і пачалі разьбіраць галанцкія сыры, што вырабляліся з малака ў двары, скрыні з яблыкамі, разьбіраць мэблю з палацаў. Забіралі кароў і рэзалі на мяса. Адзін з "аматараў паншчыны" прывез з палаца вялікае люстэрка і паставіў яго ў хляве. Аднойчы карова, убачыўшы ў люстэрка сваё адлюстраваньне, пайшла на яго "ў атаку" і рагамі разбіла яго.

Гаспадаркі паноў былі разрабаваны і змарнаваны, а маглі б быць выкарыстаны з вялікім прыбыткам.

Праз дзень ці два пасьля з'яўленьня танкаў Савецкай Арміі, з'явіліся калоны пяхоты з абозамі. Салдаты вялі за вяроўкі коней. У іх хвастах былі пазавязаны біркі. Коні былі без вуздзечак, выгляд іх быў "марны". Коні з вазамі выглядалі лепей, гэта адразу кідалася ў вочы. На пытаньні, чаму яны такія худыя, жаўнеры маўчалі альбо нехаця адказвалі, што гэта ня іхія коні, а калгасныя. Для нас гэта было дзіўным. Своеасаблівае было ў жаўнераў уяўленьне аб памешчыках. Памятаю, як бацька прыйшоў да хаты і гаварыў са сьмехам, што паны на нас аралі? На што бацька адказаў: "Скуль вы ўзялі такое глупства?" Жаўнер адказаў: "Нам так гаварылі."

Адзін з афіцэраў зайшоў на танцы і, убачыўшы дзьвюх дзяўчын модна апранутымі ў капялюшах, усклікнуў: "О, і паны ў вас на танцы ходзяць!" І калі яму сказалі, што гэта не паны а прыслуга са двара, "апраўдваўся". Мабыць, так і пайшоў не паверыўшы. Назаўтра ў вёсцы са сьмехам казалі, што Саветы прымаюць панскіх слуг за паноў.

Восеньню, калі ўсталявалася Савецкая ўлада, адбыліся выбары дэпутатаў у Народны Сход, які павінен быў прасіць улады аб далучэньні Заходняй Беларусі да БССР (быццам яна ўжо не была далучана). На справе гэта былі не выбары - нейкая гульня, бо выбіраць не было каго і чаго. Адзін кандыдат быў ужо наперад выбраны, дакладней, назначаны. Галасаваць павінны былі ўсе. Выбарамі кіраваў на выбарчым участку нейкі энкэвэдыст. Памятаю, упершыню я ўбачыў прадстаўніка Савецкай улады ў сініх портках, ботах і падпаразаны поясам кашулі. І калі яму сказалі, што адмаўляецца галасаваць адзін чалавек - амерыканец, той вельмі раззлаваўся і некалькі разоў пасылаў за ім, але той так і не пайшоў галасаваць. "Гэтым амерыканцам" быў доктар, які прыехаў на стажыроўку ў Польшчу і яго засьпела вайна. Яго потым чамусьці ніхто не арыштаваў і не чапаў, і нават не вывозіў.

Восеньню былі адкрыты школы. Вучоба пачалася на беларускай мове, але настаўнікаў не хапала, старыя кудысьці зьніклі. Казалі, што іх арыштоўваюць і "адпраўляюць". Таму і пачынаў вучыць дзяцей невядома хто. Да прыхода Чырвонай Арміі крамы былі поўныя ўсякіх тавараў. Цераз месяц яны апусьцелі. У вёсках былі адкрыты крамы. Але туды акрамя таннай гарэлкі і цукерак "падушачак" і "гарошка" нічога не прывозілі. Танную гарэлку пачалі купляць, бо было чым закусваць. Так новая ўлада пачала спойваць народ. Пры Польшчы ж гарэлка была дарагая і яе амаль ня пілі, а з прыходам Саветаў народ пачаў прызвычайвацца піць.

У 1941 годзе часам у краму пачалі завозіць крыху паркалю. Чамусьці ўсе ведалі, што заўтра штосьці прывязуць. Чаргу займалі з трох гадзін ночы, прыходзіла амаль уся вёска.

Убачыўшы Савецкую ўладу не па расказах, а на свае вочы, у жыцьці, нават яе прыхільнікі сталі яе ворагамі.

**Антон ДУДАР.**



# «КРАДЗІ, ІГНАСЬ, ПАКУЛЬ САВЕЦКАЯ ЎЛАСЬЦЬ», Альбо жменька нататак пра калгасны статак

Іван Мечыслававіч Бабкевіч прыйшоў на пасаду старшыні калгасу "Будслаўскі" Мядзельскага раёну разам з подыхам гарбачоўскага ветрыку перабудовы, разам з ідэяй сацыялізма з чалавечым тварам. Новы старшыня адразу ж пачаў ажыцьцяўляць названую ідэю шляхам зьвіваньня ўласнага, так бы мовіць, гнязьдзечка ў выглядзе салідненькага такога дамочку для больш чым сьціплай (колькасна) сваёй сямейкі. Адначасова, каб забясьпечыць беспераішкоднае пранікненьне новых павеяў часу, Мечыслававіч убухаў неслабыя калгасныя грошыкі ў меліярацыю і раскарчоўку тых кусточкаў, якія не пасьпелі зьнішчыць пры былым старшыні. Змагары з ландшафтам зрабілі сваю справу. Толькі новыя пасяўныя плошчы не дапамаглі калгасным кароўкам: з-за дрэннага стойлавага ўтрыманьня яны пачалі дохнуць. Так былі зачынены малочнатаварныя фермы ў вёсках Казіміраўка і Яцкавічы. Разам з тым, пад маркай "падзяжу" скаціны, на адкормачным комплексе в.Палесьсе пусьцілі пад нож і здаровых бычкоў. Здарыліся "ураджайныя" дні, калі "здыхала" адразу некалькі галоў.

"Мясная" была эпоха - пачатак 90-х.

А нядаўна здарылася дужа непрыемная для старшыні і яго праўленцаў неспадзяванка.

Ноччу з 14-га на 15-га сакавіка гэтага году на зерняскладзе в.Равячкі Будслаўскага с/с няўлічаным, г.зн. украдзеным, сьпісаным пад выглядам усушкі ды ўтрускі, збожжам каманда "перадавых" калгасьнікаў загружала "левы" транспартны сродак. Кіраваў аперацыяй галоўны аграном гаспадаркі Гапанёнак. Дапамагалі яму ў такой нервовай справе: кладаўшчыца Ірэна Сіняўская (прыстроена была на адказны пост замест Чаславы Сіняўскай, кладаўшчыцы з 15-гадовым стажам, якая не пажадала ўдзельнічаць у калектыўным раскраданьні калектыўнага дабра); кладаўшчыца Данута Рагоўская; калгасны касір Пятро Хацяновіч, ён жа - былы камсамольскі важак калгасьнікаў, былы прафсаюзны правадыр і... былы касір. Бо накрылі слаўныя савецкія ворганы слаўных савецкіх калгасьнікаў, як той казаў, на гарачым. Эх, цёмная ты ночка!..

Калі загружаную машыну зважылі, аказалася ў ёй каля 14 тон "усушанага" дабра.

Днём, 15-га, у раён былі выклiканы члены праўленьня к-са "Будслаўскі", з удзелам якіх і адбыліся перавыбары старшыні. Галоўнага агранома пасадзілі адразу ж. Кладаўшчыц і касіра паздымалі з работы. Сядзяць яны пакуль што па хатках, чакаюць вынікаў сьледзтва. Чакае і наш Іван Мечыслававіч, згадваючы, відаць, сваю нялёгкую кар'еру старшынёўства.

На зьмену "пацярпеламу" прыйшоў Анатоль Мар'янавіч, сын Мар'яна Браніслававіча Вайнілкі, колішняга дырэктара саўгасу "Будслаўскі", а цяпер - дырэктара Ілаўскага дома-інтэрнату. Кажуць, малады старшыня робіць чыстку канторскага апарату, наводзіць парадак, закупляе маладняк для дойнага статку. Пагаворваюць, што новаму суседу спрыяе ксёндз Будслаўскага касьцёлу бернардынаў, спадзяючыся такім чынам вярнуць касьцельны будынак, заняты цяпер калгаснай канторай.

Перасаджаны новым старшынёю з брыгадзірства ў галоўныя аграномы Язэп Сяліцкі ўжо атрымаў пару спагнаньняў за п'янства. Гэта ж самы зух, спальваючы сухую канюшыну, якая засталася летась нياскошанай на дзесятках гектараў тых самых меліяраваных земляў, ледзьве не пусьціў дымам жылы хутар. Толькі прысутнасьць гаспадара папярэдзіла няшчасьце.

Застаўся на сваёй ранейшай пасадзе намесьніка старшыні спадар Пятроўскі, таксама сьпецыяліст яшчэ той.

Вось і ўздымаюцца заканамерныя пытаньні: а ці зьменіцца што са зьменаю старшыні? Ці не пачнецца ўсё спачатку, паводле прымаўкі: "Крадзі, Ігнась, пакуль савецкая ўласьць?" Баюся, што так яно і будзе. І будуць доўжыцца раённыя будні, пакуль пануе на нашай зямлі ўлада саветаў і ейныя дзеткі - саўгасы з калгасамі.

**Зьдзіслаў РЭМ**

**P.S. З моманту пісаньня гэтага матэрыялу прыйшло пяць месяцаў. Стала вядома, што герою нашай нататкі галоўнаму аграному Гапанёнку далі шэсьць гадоў зьняволеньня. Астатнія ўдзельнікі калгасных рабункаў выйшлі сухімі з вады. Больш таго, былая кладаўшчыца І.Сіняўская зноў займае "адказную" пасаду - прымае малако ад вяскоўцаў. І прымае з уласьцівым ёй спрытам. Так што некаторыя здатчыкі вырашаюць: лепей тым малаком сваё сьвінства карміць, чым суседава. Так і жывем.**

# «НАША СТАЛІЦА - МАСКВА»?

"Радзіма - гэта краіна, дзе ты нарадзіўся. Гэта краіна тваіх бацькоў і дзядоў, Айчына твая.

Наша Радзіма - СССР, Саюз Савецкіх Сацыялістычных рэспублік..." - чытае ўслых сынок-другакласьнік.

- Што за бязглузьдзіцу ты нясеш? - зьдзіўлена пытаюся я.

- Не бязглузьдзіца гэта, а тэкст са школьнага падручніка, - з гонарам адказвае малы, успрымаючы інфармацыю з падручніка як ісьціну.

- Тут яшчэ напісана, што ў нашага сьцяга чырвоны колер... І пра герб... І пра тое, што Масква - сталіца нашай Радзімы...

- У якой жа гэта кнізе? - пытаюся.

Адказ:

- У падручніку "Азнаямленьне з навакольным сьветам".

... Так беларускія дзеткі знаёмяцца з навакольным сьветам. І дапамагае ім у гэтым вучэбны дапаможнік В.М.Мінаевай і В.Ф.Лук'яненка "Пазнаю свет". Раздзел "Родная краіна, родная рэспубліка" вельмі эмацыянальна расказвае школьнікам пра Канстытуцыю СССР, правадыра бальшавікоў Леніна, утварэньне "самай справядлівай у сьвеце савецкай рабоча-сялянскай рэспублікі", пра герб з сярпом і молатам, пра Красную плошчу...

"Горад Масква даўно стаў цэнтрам і сэрцам Айчыны. Тут працуе Прэзыдэнт СССР, Вярхоўны Савет, Савецкі ўрад. Вось чаму Масква па праву называецца сталіцай нашай Радзімы..."

Нядрэнная інфармацыя для дзіцячых мазгоў, ці не так?

У нас заўсёды эканомілі на дзецях, хоць і крычалі, што менавіта ім - усё лепшае. Вось вам і яшчэ адзін красамоўны прыклад! Чатыры гады прыйшло з таго часу, як Беларусь абвешчана незалежнай дзяржавай. Даўно зьмяніліся гістарычныя каштоўнасьці, сталі звыклымі новы герб і сьцяг. Толькі ў школьных падручніках усё засталося па-ранейшаму...

Дарослым не да дзяцей (свае б праблемы вырашыць!). А між тым, усе разумеюць, што з дзяцінства пачынаецца фармаваньне сьветапогляду і закладваньне маральных асноў, пачуцьця нацыянальнай самасьвядомасьці і годнасьці чалавека.

Няўжо за тры гады, якія прайшлі з дня выпуску падручніка, не знайшлося сродкаў на выпуск новага? Няўжо, эканомячы на малым, разумныя дзядзькі не разумеюць, што губляюць намнога большае - дзіцячы давер. Ніякія страты на выданьне новага вучэбнага дапаможніка не змогуць параўнацца з тым уронам, які наносяць дзіцячай сьвядомасьці старыя дэзінфармуючыя падручнікі (нават калі ў іх не вывучаць ці заклейваць цэлыя раздзелы).

Не хачу, каб мой сын, любімай кнігай якога з'яўляецца дзіцячая Біблія, дэкламаваў са свайго падручніка:

"Кастрычнік у мяне ўвайшоў настолькі,
Што ён маім жыцьцём навекі стаў!"

Няхай яму дапамогуць спазнаць сьвет творы Ў.Караткевіча, А.Адамовіча, В.Быкава, Л.Дайнекі, вершы М.Багдановіча, Ф.Багушэвіча, Л.Геніюш, А.Пашкевіч...

**Алёна БІБІКАВА,**
**маці сына-другакласьніка.**

 



**Я.МАЛЕЦКІ**

# УСЕБЕЛАРУСКІ КАНГРЭС У МЕНСКУ

**З кнігі «Пад знакам Пагоні»**

**(Заканчэньне. Пачатак у N 32).**

“Ці ня той гэта ’праўны гаспадар’, які ’дзеля дабра беларускага народу’ згадаў сваім бальшавіцкім бандам разагнаць Першы Ўсебеларускі Кангрэс 1917 года, а ў 1920 годзе зьнішчыць беларускую незалежную дзяржаву БНР, створаную воляй усяго беларускага народа?”

“Ці гэта той самы ’праўны гаспадар’, які ў 1921 годзе ў Рызе, супольна з польскімі агрэсарамі, для дабра таго ж беларускага народу парэзаў цела сялянска-работніцкае Беларусі ды гандляваў яе тэрыторыяй як хацеў і зь кім хацеў?

“Ці гэта ня той самы ’праўны гаспадар’, які ізноў жа ”для дабра беларускага народу" закатаваў 1 800 000 найлепшых беларускіх сялян і работнікаў, зьнішчыў дзесяткі тысячаў беларускае інтэлігэнцыі, разбурыў беларускую гаспадарку, давёў край і народ да поўнай руіны й галечы?"

“Ці гэта ня той самы ’гаспадар’, які разбурыў найкаштоўнейшыя помнікі нашай слаўнай культуры, нашыя сьвятыні, атручваў душы нашых дзяцей сваёй бязбожнай бандыцкай маральлю, ізноў жа для ”дабра" беларускага народу?

“Ці гэта ня той самы ’гаспадар’, які пакрыў беларускі край засьценкамі НКВД, у падзямельлях якіх крываві́ліся ў муках тысячы Беларусаў за імкненьне да свабоды й абарону чалавечых правоў і годнасьці?..

“Хто й калі даў вам права выступаць ад імя беларускага народу перад сьветам - вам, ягоным забойцам?..”

Свой даклад М.Шкялёнак скончыў заклікам:

“Думаю, што сярод вас, прадстаўнікоў беларускага народу, ня знойдуцца такія, што баранілі б, альбо падтрымоўвалі тыя ўсе ланцугі, тыя дагаворы й пастановы нашых ворагаў, якімі яны нас мучылі, а цяпер і надалей хочуць узаконіць нашую няволю.

“Адкінем усе гэтыя кайданы раз і назаўсёды!

“Ня будзем ніколі прызнаваць таго, хто самазванна ад нашага быццам імя гандлюе нашай воляй і справай, як чыніць за мяжою цяпер Масква, ці польскі экзыльны ўрад!..”

Першым выступіў з словам дыскусіі генэрал К.Езавітаў, удзельнік Першага Ўсебеларускага Кангрэсу 1917 году й арганізатар беларускага войска ў час існаваньня БНР. Ён, між іншага, сказаў:

“Супроць варожага беларускаму народу трактату ў Рызе ўжо ў 1921 годзе пратэставаў урад БНР і яго ніколі не прызнаваў, як і іншыя й польскія, і расейскія пастановы. Цяпер жа наступіў час, каб гэты кангрэс, як прадстаўнік волі беларускага народу, станоўка й назаўсёды адкінуў усе варожыя нам акты. Беларусь, як вольная дзяржава, народжаная ў Першай вайне, цяпер, у Другой вайне поўнасьцю дасьпела, каб стацца вольнай і незалежнай ды сама аб сабе станавіла, ніякія старыя ні новыя дагаворы ня зломяць нашай станоўкай волі да самастанаўленьня!”

Пасьля выступу ген.Езавітава была мая чарга. Я прызнаў галоўны даклад М.Шкялёнка поўнасьцю правільным як у гістарычным разрэзе, так і для нашага часу. Я сказаў:

“Скончыліся тыя часы, калі гаварылі аб нас бяз нас. Ніхто на сьвеце ня мае права выступаць ад імя беларускага народа, ня спытаўшы яго згоды. Беларускі народ, вуснамі прадстаўнікоў БНР, што прадаўжалі змаганьне за вызваленьне Беларусі, ня раз пратэставаў супроць Рыскага трактату да бальшавіцкіх парадкаў у паняволенай Беларусі пад шыльдай БССР. Цяпер крывавая Масква й яе разбойнік Сталін, засеўшы ў Тэгеране з міжнароднымі гандлярамі свабоды народаў Чэрчылем і паралітыкам Рузвельтам, заганяюць у старую бальшавіцкую няволю наш беларускі народ, а яго тэрыторыю нанава рэжуць. Мы, прадстаўнікі народу, павінны рашуча асудзіць усе гэтыя варожыя пакты й трактаты, як антыбеларускія, што ня мелі й ня маюць ніякай праўнай сілы.”

“Няхай жыве Вольная Беларусь!”

“Няхай жыве сувэрэнная воля беларускага народу!”

Заля гудзела ад воплескаў, апрабуючы ануляваньне ўсіх варожых дагавораў ды няпрызнаваньне ўсякіх новых каншахтаў і намаганьняў нанава паняволіць беларускі народ.

Пасьля абедняга перапынку, на другім паседжаньні кангрэсу, А.Калубовіч, сябра БЦР, прачытаў даклад: “Аб канчальным разрыве Беларусі з Масквой і аб унетуражэньні маскоўскага голасу ў беларускіх справах”. Ён прааналізаваў усю фікцыйнасьць дзяржаўнасьці БССР, як чыста маскоўскі зман беларускага народу. БССР была толькі маскоўскаю, каляніяльнага тыпу, правінцыяй, у якой беларускі народ ня меў самастойнага голасу, дзе адбываўся жорсткі глум над беларускай мовай, культурай, царквой, гаспадаркай і жыхарствам - сялянамі, работнікамі й інтэлігэнцыяй.

У дыскусіі над дакладам выступала колькі прамоўцаў. Усе яны падкрэсьлівалі, што Масква з 26 гадоў свайго панаваньня нічога пазітыўнага не зрабіла для беларускага народу, адно давяла да жабрацкай долі, а цяпер сваімі бандамі спрабуе й зусім зьнішчыць наш народ. Дык ня можа быць ніякай гутаркі аб прызнаваньні ейных разбойніцкіх парадкаў ды ейных законаў.

Былі галасы й супраць пануючага стану. Так, дэлегат з Лідчыны, Анішчык-Чэмер, казаў:

“Тады, калі беларускі народ мабілізуе ўсе свае сілы на змаганьне з бальшавізмам, польскія бандыты ў Лідчыне й чорнасоценная расейшчына ў Наваградчыне, убіваюць нож у плечы нашага народу. У Лідзкай акрузе Палякі забіваюць бязкарна лепшыя сілы беларускай інтэлігэнцыі, вырэзваюць цэлыя беларускія вёскі. А што робіць у Наваградчыне, у Дзятлаве, чорнасоценная РОА, ды іншыя расейскія злучэньні, найлепш скажа прысутны тут Васіль Рагуля. Мы хочам змагацца з бальшавізмам, але мусім мець забясьпечаныя тылы. Прашу кангрэс зьвярнуцца да прэзыдэнта БЦР, каб паслаў у Лідчыну беларускія батальёны і зрабіў канец здзекам над беларускім жыхарствам!”

“Чаму гэта цяпер БЦР, як прадстаўніцы Беларусі, не падлягае ЎСЯ БЕЛАРУСЬ, так Заходняя, як Усходняя й Паўночная? Дакуль будуць нас увесь час дзяліць?! Кангрэс мусіць падаць станоўкі голас, каб уся этнічная Беларусь была зьядналая ў непадзельную дзяржаву!”

На канцы зьезду былі прынятыя рэзалюцыі аб непрызнаваньні ўсякіх шкодных дагавораў, законаў, міжнародных пактаў, а таксама маскоўскай марыянеткі БССР. Адначасна для БЦР надавалася права рэпрэзэнтацыі інтарэсаў беларускага народу ды абароны краю на час вайны.

Пазьней, ужо на эміграцыі, ці мала было спрэчак пра БЦР ды кангрэс. Адны, атакуючы прыхільнікаў БНР, хацелі й надалей бачыць “легітымнасьць” БЦР у пастановах кангрэсу, ды прадаўжаць дзейнасьць БЦР. Другія, што стаялі пасьлядоўна на пазыцыях БНР, хацелі панізіць гэты кангрэс, як быццам “недэмакратычны” што да спосабу выбару дэлегатаў і дзеля татальнага нямецкага рэжыму, які быццам не даваў магчымасьці свабодна выявіць волю беларускага народу. Гэткія зьвінавачваньні пад адрасам зьезду несправядлівыя.

Ведама, умовы вайны, і нацысцкі таталітарны рэжым Гітлера, з пачаткавай славянагубнай праграмай, ня спрыяў выяўленьню дэмакратычных тэндэнцыяў зьезду. Ды нельга вінаваціць і зьезд, і БЦР у тым, што яны былі паслухмяныя Немцам марыянеткі тыпу бальшавіцкіх “зьездаў” у БССР. На зьезд, праўда, прыбылі дэлегаты з назначэньня, а сам ён трываў толькі адзін дзень, бо ўжо ў часе нарадаў можна было на залі паседжаньняў чуць кананады цяжкіх баёў фронту, які якраз тады маланкава набліжаўся да Менску. Ды каго іншага маглі б паслаць “дэмакратычныя” выбары, ды якую іншую ідэялёгію рэпрэзэнтавалі б “дэмакратычныя” пасланьнікі?

Гэта ж Першы Ўсебеларускі Кангрэс у 80 % складаўся з гэтак званых “абласьнікоў”, ці з дэлегатаў “Западнай вобласьці”, падабраных да нацкаваных бальшавікамі супроць дэмакратычнага ладу й беларускай дзяржаўнасьці. А што сталася? Беларускі народ клясава адналіты, дэмакратычны, свабодалюбівы й патрыятычны, і хоць бальшавікі акружылі будынак зьезду, а ленінска-сталінскія агэнты намагаліся запалохаць расправай за непаслухмянасьць бальшавіцкай праграме - Першы Кангрэс адкінуў бальшавіцкі лад у Беларусі ды паклікаў да жыцьця Беларускую Народную Рэспубліку - дэмакратычную дзяржаву ў этнаграфічных межах пасяленьня беларускага народу!

Тое самае паўтарылася й у Другой вайне. Гітлераўскія Немцы не перашкаджалі справе арганізацыі зьезду ды не праяўлялі намаганьняў умешвацца ў ход нарадаў. Было ім ужо не да гэтага. Дэлегаты, што прыехалі, былі такія самыя беларускія патрыёты, што й на Першым Кангрэсе, і на парадку дня паставілі ня нейкі беларускі нацызм, не марыянецтва ў карысьць Трэцяга Рэйху, але працяг нашага змаганьня за зьдзяйсьненьне Акту 25 Сакавіка 1918 году, за стварэньне сваёй незалежнай дзяржавы.

А за 25 гадоў палітычнага змаганьня беларускі рух, не зважаючы на крывавы масавы тэрор чырвонае Масквы, на глум пад Польшчай, на панесеныя аграмадныя страты ў радох патрыятычнае інтэлігэнцыі, паказальна задэманстраваў вялікі прагрэс у пашырэньні нацыянальна-палітычнай сьвядомасьці. Не засталося бяз сьледу й тое, што не зважаючы на аграмадныя разбурэньні, на вялікія цярпеньні й страшнае вынішчэньне жыхарства, і Другая вайна была часам яшчэ аднаго ўздыму да свабоды, да незалежнасьці.

На зьездзе сьцьвердзіў гэта й генэрал К.Езавітаў, удзельнік Першага Ўсебеларускага Кангрэса:

- Дваццаць пяць гадоў таму назад большыня дэлегатаў на Першым Кангрэсе прамаўляла па-расейску. Сёньня ўсе бяз вынятку прамаўляюць па-беларуску... Тады былі ў некаторых ухілы ў бок Расеі, сёньня адна ва ўсіх ідэя - НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ!

У абліччы новага бальшавіцкага нахлыну зьезд ставіў галоўнай мэтай справу найважнейшую: каб перад сьветам заявіць, што беларускі народ пратэстуе супроць новых міжнародных махінацыяў пастанаўляць аб ягоным лёсе без ягонай волі. А воля ягоная адна: не нацысцкая, не гітлераўская, не бальшавіцкая, ня польскіх абшарнікаў, але свая, адвечная, справядлівая.

**(Друкуецца на мове арыгіналу).**

# МЫ ПАВІННЫ ЎЖО СЁНЬНЯ ЗМАГАЦЦА ЗА ПРАЎДУ

Мяне зьдзіўляе бяздзейнасьць беларускіх гісторыкаў у справе распрацоўкі гісторыі беларускага нацыянальнага руху падчас апошняй вайны. Па-за кнігамі Ю.Туронка і В.Раманоўскага няма ніводнай працы, у якой бы чытач даведаўся пра Беларускую Самаахову, Беларускую Краёвую Абарону, Саюз Беларускай Моладзі, Беларускую Незалежную Партыю, Беларускую Народную Партызанку... Няма ніводнае кнігі пра гэткіх выдатных беларускіх патрыётаў, як кс.В.Гадлеўскі, Ст.Грынкевіч (старэйшы), М.Шкялёнак, Ус.Родзька, М.Вітушка, Ю.Саковіч...

Можна, канешне, сказаць, што не насьпелі, што ў архівы КДБ пускаюць толькі “избранных”... Але ці можа гэта быць апраўданьнем? Нельга без зайздрасьці глядзець на працу ўкраінскіх гісторыкаў, якія грунтоўна распрацоўваюць гісторыю ОУН, УПА, пішуць кнігі пра Я.Канавальца, С.Бандэру, Р.Шухевіча. А ў нас?.. Вялікі дзякуй украінцу гісторыку Ул.Гуленку, які ўжо шмат гадоў вывучае “белыя плямы” II-ой сусьветнай вайны на Беларусі. А што беларусы? Праф. А.Хацкевіч працягвае рэабілітоўваць польскую Армію Краёву, але адначасна фашысьціць беларускі нацыянальны рух. Дарэчы, чамусьці вывучэньне дзейнасьці АК на Беларусі больш за ўсё займае беларускіх гісторыкаў. А іх функцыі пераймаюць розныя “спецыялісты” з “Советской Белоруссии”, “Мы и время”. І яны ізноў льюць бруд на беларускіх патрыётаў, не падзяляючы іх і сьвядомых калябарантаў.

Можа тады ёсьць сэнс перавыдаць эміграцкія кнігі: “Другі Ўсебеларускі Кангрэс”, “За Дзяржаўную Незалежнасьць Беларусі” (зборнікі дакумантаў), “Пад знакам Пагоні” (успаміны) Я.Малецкага? Але спроба перавыдаць кнігу Я.Найдзюка і У.Касяка “Беларусь учора і сёньня” скончылася арыштам гатовага да продажу накладу! Што ж не спадабалася цэнзарам? Можа тое, што “на зьмену фашыстоўскай прыйшла расейска-бальшавіцкая акупацыя”? Як бачым, гісторыя, як і раней, залежыць ад палітыкі. Асабліва пільна аберагаюць гэтыя цэнзары гісторыю II-ой сусьветнай вайны на Беларусі. Вельмі яны баяцца, што праўда пра тыя часы можа не панравіцца ўсходняму суседу. Вось гісторыкі й ня хочуць займацца некаторымі тэмамі, альбо займаюцца, але не друкуюць вынікі сваёй працы. Чакаюць палітычных зьмен. Як кажуць, куды вецер падзьме...

А пакуль маўчаць нашыя гісторыкі, паміраюць апошнія сьведкі і ўдзельнікі ўспомненых падзей. Пры ўладзе камуністых яны маўчалі, маўчаць і цяпер. Яны забяруць з сабою ў магілу сьведчаньні пра сапраўдную дзейнасьць савецкіх партызанаў, пра Беларускую Народную Партызанку, Беларускую Краёвую Абарону... І калі праз пяць, або дзесяць гадоў нарэшце пачнецца пісацца праўдзівая гісторыя, дык яна будзе значна бяднейшая бяз гэтых сьведчаньняў. Так, як сёньня гісторыя вайны паказана толькі з аднаго боку - расейскага. Калі ж мы зірнем на яе “беларускімі вачыма”?

Але ня трэба думаць, што гэта адбываецца толькі ў нас. Падобнае становішча назіраецца і ў Сербіі. Вось што лідар сербскіх дэмакратаў Вук Драшкавіч сказаў у інтэрв’ю “Комсомольской правде”:

“Вы ведаеце, што сербы-камуністы забілі болей сербскіх сьвятароў, чымсьці харвацкія ўсташы? У 1944-1945 гадох яны зьнішчылі 250 тысяч чалавек. За тры дня ў кастрычніку 44-га бяз суда было расстраляна 12 тысяч: прафесары, акадэмікі, акцёры, сьвятары. Сербскі народ згубіў свае духоўныя вышыні... Але ён (Прэзыдэнт Сербіі Слабадан Мілошэвіч - С.Д.) не дае расказаць праўду пра злачынствы партызан. Да гэтага часу злачынцы жывуць у самым фешэнебельным раёне Бялграда...” ("К.П.", 13 кастрычніка 1993г.)

Мя яшчэ мала ведаем пра бальшавіцкі тэрор пасьля ліпеня 1944г. Чамусьці ў нас больш успамінаюць тэрор даваенны, а паваенны закранаюць мімаходзь. Чаму так? Можа таму, што пасьля вайны ён быў яшчэ страшнейшы, чымсьці ў 20-30-ыя гады? А можа і таму, што тэрор гэты выклікаў моцны і адчайны ўзброены супраціў народа бальшавікам?..

**(Заканчэньне на 6-й стар.)**

 

# МЫ ПАВІННЫ ЎЖО СЁНЬНЯ ЗМАГАЦЦА ЗА ПРАЎДУ

(Заканчэньне. Пачатак на 5-й стар.)

У 1950 г. у Парыжы былі выдадзены ў французкім перакладзе ўспаміны былога іспанскага камуністычнага генэрала Валентына Ганзалес (пад псэўданімам "Земляроб") - "Жыцьцё і сьмерць у СССР". Генэрал Ганзалес пасьля грамадзянскае вайны ў Іспаніі выехаў у СССР, дзе неўзабаве трапіў у бальшавіцкія лагеры. У 1949 г. яму ўдалося ўцячы адтуль на Захад.

У сваіх успамінах ён піша і пра Беларусь. Ген.Ганзалес цьвердзіць, што з усіх савецкіх рэспублік Беларусь пацярпела ад НКУС найбольш. У гадох 1944-1946 на Беларусі адбыліся тры вялікія "чысткі" насельніцтва. У 1944 "чысьцілі" пад закідам шпіянажу і пераважна расстрэльвалі. Расейскае войска пад кіраўніцтвам НКУС расстрэльвала нават 13-гадовых дзяцей. У 1945 г. адшуквалі "здраднікаў Радзімы" і вывозілі ў Сібір. Ген.Ганзалес цьвердзіць, што з Беларусі было вывезена каля мільёну чалавек. У 1946 г. адбылася найбольш лютая "чыстка" насельніцтва, калі мноства народу было вывезена ў Сібір і разьмешчана ў мясцовых канцэнтрацыйных лагерах.

У Смаленску на прасторы каля 150 км кв. у 1948 г. былоназганяна больш за 62000 нявінных людзей. Там іх рассартоўвалі па розных раёнах Сібіры на прымусовыя работы. Найбольш пацярпела Віцебшчына, бо там падчас нямецкай акупацыі была школа "Абвэру". У мясцовым лагеры знаходзілася больш 55000 вязьняў. У Вязьме было зогнана за калючы дрот 18000 чалавек. Апрача гэтага, больш чым 90000 арыштаваных было ў канцлагерах, што знаходзіліся ў ваколіцах Менску, Рагачова, Каленкавіч, Крычава, Баранавіч і Глыбокага. Працавалі там людзі па 12-14 гадзін у дзень і атрымоўвалі па 100 грамаў хлеба. Усе вязьні былі асуджаны фактычна на павольную сьмерць.

Вось гэткія ўспаміны напісаў ген.Ганзалес. Можна паставіць пад сумненьне некаторыя факты, пададзеныя аўтарам, але існаваньне канцэнтрацыйных лагероў на Беларусі пасьля вайны - гэта рэальны факт. Але да сёньняшняга дня пра гэта ня ведаюць маладыя пакаленьні, а дзяды нашыя ня хочуць успамінаць тыя часы, бо гэта выклікае боль і страх...

Прыйдзе час, калі мы даведаемся пра дзесяткі пасьляваенных Курапатаў і на магілах бязвінных ахвяраў чырвонага фашызму будуць пастаўленыя крыжы. А дзеля набліжэньня гэтага дня, мы павінны ўжо сёньня змагацца за праўду пра ваенныя й пасьляваенныя падзеі на Беларусі. Гэта наш абавязак перад Богам, перад гісторыяй, перад памяцьцю мільёнаў ахвяр акупантаў з Захаду і Ўсходу.

Сяргей ДУДАЛІЧ.





Кавальскае майстэрства Юрася Мацко добра ведаюць на Беласточчыне, Віленшчыне і Гарадзеншчыне. Спадар Мацко - пастаянны ўдзельнік выстаў народнага прыкладнога рамяства. Яго вырабы, а гэта ажурныя краты, падсвечнікі, культавыя прылады, карыстаюцца вялікім попытам.

НА ФАТАЗДЫМКАХ: Ю.МАЦКО пад час прэзэнтацыі выставы, прысьвечанай краявідам роднага краю: ваконныя краты работы мастака.

# СУД НЕ АДБЫЎСЯ

Газета "Пагоня" пісала, што Мікалай Аляксандравіч Мельнікаў, які безпадстаўна звольнены з працы ў ГрДУ, падаў у суд, каб аднавіцца на працы. Да рэдакцыі да гэтага часу надыходзяць лісты ад былых вучняў і простых людзей, якім неабыякавы лёс педагога і навукоўца М.А.Мельнікава. На жаль, надрукаваць іх поўнасьцю мы ня маем магчымасьці па агульнавядомай прычыне - дэфіцыту газетнай плошчы. Але больш цікавыя, на думку рэдакцыі, вытрымкі з лістоў прапануем нашым чытачам:

**"Дарагі Мікалай Аляксандравіч! Хачу прызнацца Вам у пачуцьці глыбокай пашаны да Вас як Настаўніка, шчыра заяўляю, што як славесьніца я чаго-небудзь дасягнула ў жыцьці дзякуючы толькі Вам".**

Гэта радкі з ліста настаўніцы СШ N 9 г.Слоніма Т.М.Шарпай.

Галіна Дземчанка - настаўніца СШ N 25 Горадні ў сваім лісьце ў рэдакцыю ўспамінае іспыты, якія здавала спадару Мельнікаву:

**"Мікалай Аляксандравіч спакойна перапыніў мяне і прапанаваў пачытаць свае вершы. Выслухаўшы іх, сказаў: "Вы будзеце настаўніцай літаратуры".**

**"Сапраўдны педагог - гэта чалавек, які любіць сваю справу, свой прадмет, сваіх вучняў. Менавіта такім педагогам з'яўляецца М.А.Мельнікаў,"** - піша ў сваім лісьце псіхолаг СШ N 10 г.Горадні Н.А.Сіманава.

Такіх лістоў мноства, іх аўтары ня толькі выказваюць падзяку і спагаду свайму выкладчыку, але і турбуюцца яго лёсам, вынікамі суда.

Прыкра, бо суд пакуль што перанесены на 19 кастрычніка, з-за таго, што прадстаўнік універсітэту Краўцэвіч ня меў адпаведных папер на права прадстаўляць у судзе інтарэсы ГрДУ.

## ПОЛЬСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ

## ПАНЯДЗЕЛАК, 17.10

### ПРАГРАМА 1

07 00 Кава цы гарбата? 09 00 "Мода на поспех". Серыял вытв. ЗША. 09 30 Праграма для дзяцей. 09 45 Гімнастыка. 09 50 Мультфільм. 10 00 Навіны. 10 10 Мама і я. 10 25 Дашкольнікі дома. 10 50 Мы і нашы дзецы. 10 55 Англійская мова для дзяцей. 11 05 "Дынастыя Колбі". Серыял вытв. ЗША. 12 00 Прыемнае з карысным. 12 30 Тэлетурнір 13 00 Навіны. 13 10 Аграбізнэс. 13 15 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 15 Сельскагаспадарчая праграма. 13 40 Хроніка 80-х. 13 55 Дакументальны фільм. 14 55 Вагнём і мячом. 15 10 Паляўнічыя за таямніцамі. 15 20 Энцыклапедыя другой сусветнай вайны. 15 40 Таямнічая гісторыя СССР. 15 55 Праграма дня. 16 00 Музычны журнал. 16 30 Маладзёжная праграма. 17 00 "Мода на поспех". Серыял вытв. ЗША. 17 25 Для дзяцей. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Публіцыстычная праграма. 19 10 Серыял вытв. Англіі. 19 40 Юбілійная праграма. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 15 Тэлетэатр. "Пажыццёва". 22 45 Мініяцюры. 22 50 Пульс дня. 23 10 Тыдзень прэзідэнта. 23 45 Публіцыстычная праграма. 00 00 Навіны. 00 20 "Двое благаславёных". Фільм вытв. Швецыі. 01 45 Забаўляльная праграма.

### ПРАГРАМА 2

08 00 Панарама. 08 10 Спорт. 08 20 Курс англійскай мовы. 08 30 Раніца. 09 00 Мясцовая праграма. 09 30 "Барабара і Ян". Серыял вытв. Польшчы. 10 00 Свет жанчын. 10 30 Дакументальны серыял. 11 05 Мультфільм для дзяцей. 11 30 Праграма па заяўках. 14 00 Панарама. 14 20 "Гэта цудоўная сямейка". Серыял вытв. Францыі. 15 05 Тэлежурнал. 15 55 Прывітанне. 16 00 Мультфільм. 16 30 Спартыўная студыя. 17 00 Тэлежурнал. 17 10 Айчына. 17 30 Парыж. 18 00 Дакуменатльныфільм. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 20 00 Кола фартуны. 20 35 Мультфільм. 21 00 "Прыпынак Аляска". Серыял вытв. ЗША. 21 45 Рэпартаж. 22 00 Панарама. 22 30 Рэпартаж. 23 30 Сад мастацтваў. 00 00 Публіцыстычная праграма. 00 40 Варшаўскі кінафестываль. 01 00 Панарама. 01 05 Спартыўная студыя. 01 15 Канцэрт.

## АЎТОРАК, 18.10

### ПРАГРАМА 1

07 00 Кава цы гарбата? 09 00 "Першыя пацалункі". Серыял вытв. Францыі. 09 30 Для дзяцей. 09 55 Гімнастыка. 10 00 Навіны. 10 10 Мама і я. 10 25 Дашкольнікі дома. 10 50 Пагаворым пра дзяцей. 10 55 Англійская мова для дзяцей. 11 00 Серыял вытв. ЗША. 11 45 Еўрапескі партрэт. 12 00 Рынак працы. 12 20 Запрашэнне да стала. 12 30 Сто год. 12 40 Тэлежурнал. 13 00 Навіны. 13 10 Аграбізнэсс. 13 15 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 15 Сельскагаспадарчая праграма. 13 40 Лабараторыя. 14 00 Дакументальны фільм. 14 30 Джойсцік. 14 50 Кніга цудаў тэхнікі. 15 05 Лік матэматыкі. 15 20 Дакументальны фільм. 15 45 У свеце навукі. 15 50 Праграма дня. 16 00 Музычная праграма. 16 30 Праграма для моладзі. 17 00 "Першыя пацалункі". Серыял вытв. Францыі. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Арыя са смехам. 18 40 Здароўе. 19 05 Мультфільм. 19 30 Сенсацыі XX стагоддзя. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Без пачуццяў". Фільм вытв. Францыі. 22 40 Пульс дня. 23 00 Што новага? 23 15 Сеймограф. 23 30 Пісьма об гаспадарцы. 00 00 Навіны. 00 20 Дакументальны фільм. 01 10 Культурна-публіцыстычная праграма. 02 10 Музычная праграма.

### ПРАГРАМА 2

08 00 Панарама. 08 10 Спорт. 08 20 Курс англійскай мовы. 08 30 Раніца. 09 00 Мясцовая праграма. 09 30 "Барабара і Ян". Серыял вытв. Польшчы. 10 00 Свет жанчын. 10 30 Дакументальны серыял. 11 00 "Прыгоды Блэка". Серыял вытв. Канады. 11 30 Праграмы па заяўках. 14 00 Панарама. 14 20 "Забароненае каханне". Серыял вытв. Іспаніі. 15 15 Тэлежурнал. 15 45 У чым справа? 15 55 Прывітанне. 16 00 "Прыгоды Блэка". Серыял вытв. Канады. 16 30 Спартыўная студыя. 17 00 Агляд кінахронік. 17 30 Смутак і мары. 18 00 Тэлежурнал. 18 10 Сон аб Еўропе. 18 40 Каталіцкая праграма. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 20 00 Кола фартуны. 20 35 Мультфільм. 21 00 Публіцыстычная праграма. 22 00 Панарама. 22 30 Экалагічная праграма. 22 40 Рэпарцёры другой праграмы прадстаўляюць... 23 05 "Вайна міроў". Фільм вытв. Польшчы. 00 40 Рэпартаж. 01 00 Панарама. 01 05 Спартыўная студыя. 01 15 "Тры года". Фільм вытв. Францыі.

## СЕРАДА, 19.10

### ПРАГРАМА 1

07 00 Кава цы гарбата? 09 00 "Мода на поспех". Серыял вытв. ЗША. 09 30 Праграма для дзяцей. 09 45 Гімнастыка. 09 50 Мультфільм. 10 00 Навіны. 10 10 Мама і я. 10 25 Дашкольнікі дома. 10 50 Пагаварым пра дзяцей. 10 55 Англійская мова для дзяцей. 11 00 "Сонечны патруль". Серыял вытв. ЗША. 12 00 Ад калыбелі да школы. 12 55 Наша дзяржава. 13 00 Навіны. 13 10 Аграбізнэс. 13 15 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 15 Сельскагаспадарчая праграма. 13 55 Дiялог аб польскіх паўстаннях. 14 35 Крыху іншая гісторыя. 14 45 Чалавек, які ведаў Эдзіт Штэйн. 15 05 Гісторыя польскага радыё. 15 25 Твары Рэнесанса. 15 50 Праграма на вечар. 16 00 Маладзёжная музыка. 16 30 Для моладзі. 17 00 "Мода на поспех". Серыял вытв. ЗША. 17 20 Тэлетурнір 17 45 Тэлежурнал. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Тэлетурнір 18 45 Тэлежурнал. 19 05 "Сонечны патруль". Серыял вытв. ЗША. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 Спортыўная студыя. 23 10 Пульс дня. 23 25 Заўсёды ўвечары. 00 00 Навіны. 00 20 "Бегства ў Новы Свет". Фільм вытв. ЗША. 01 55 Дакументальны фільм.

### ПРАГРАМА 2

08 00 Панарама. 08 10 Спорт. 08 20 Курс англійскай мовы. 08 30 Раніца. 09 00 Мясцовая праграма. 09 30 "Барбара і Ян". Серыял вытв. Польшчы. 10 00 Свет жанчын. 10 30 Дакументальны серыял. 11 00 Мультфільм. 11 30 Праграма па заяўках. 14 00 Панарама. 14 20 "Двое шустрых з Анталіі". Серыял вытв. Германіі. 15 10 Тэлежурнал. 15 55 Прывітанне. 16 00 Мультфільм. 16 30 Спартыўная студыя. 17 00 Жывёлы вакол нас. 17 30 Дакуменатльны фільм. 18 30 Рэпартаж. 18 55 Розыгрыш лато. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 20 00 Телетурнір. 20 35 Забаўляльная праграма. 21 00 "Справы Росі О'Нэйл". Серыял вытв. ЗША. 21 45 Цені жыцця. 22 00 Панарама. 22 35 Экспрэс рэпарцёраў. 23 05 Канцэрт. 00 00 Спартыўная студыя. 01 00 Панарама. 01 05 Спартыўная студыя. 01 15 Тэлежурнал.

## ЧАЦВЕР, 20.10

### ПРАГРАМА 1

07 00 Кава ці гарбата. 09 00 "Дзіцячае аддзяленне". Серыял вытв. Англіі. 09 30 Для дзяцей. 09 45 Гімнастыка. 09 50 Мультфільм. 10 00 Навіны. 10 10 Праграма для дзяцей. 10 25 Дашкольнікі дома. 10 50 Пагаварым пра дзяцей. 10 55 Англійская мова для дзяцей. 11 05 "Спякота тропікаў". Серыял вытв. ЗША. 12 00 Кулінарная праграма 12 20 Это лёгка 12 30 Чвэрць гадзіны на экране. 12 45 Бяспечнае жыццё. 13 00 Навіны. 13 10 Аграбізнэсс. 13 15 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 15 Сельскагаспадарчая праграма. 13 40 Такі пейзаж. 14 00 Паміж намі жывёламі... 14 20 Жывёлы свету. 14 50 Рабінзоны. 15 10 Тэлежурнал. 15 25 Першы год жыцця дзіцяці. 15 50 Праграма дня. 16 00 Маладзёжная музыка. 16 30 Для маладых гледачоў. 17 00 Праграма для моладзі. 17 25 "Где Валі?". Серыял вытв. Англіі. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Кінажурнал. 18 40 Такі свет. 19 05 "Маленькі цуд". Серыял вытв. ЗША. 19 30 Каталіцкая праграма. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Спякота тропікаў". Серыял вытв. ЗША. 22 05 Толькі ў першай праграме. 22 50 Сатырычная праграма. 23 00 Урадавы журнал. 23 10 Ваенны кінажурнал. 23 25 Пегас. 00 00 Гаспадарчыя навіны. 00 15 Мініяцюры. 00 20 Сады. 00 50 Біяграфічны фільм. 02 20 Рэпартаж.

### ПРАГРАМА 2

08 00 Панарама. 08 10 Спорт. 08 20 Курс англійскай мовы. 08 30 Раніца. 09 00 Мясцовая праграма. 09 30 "Прыгоды пана Міхала". Серыял вытв. Польшчы. 10 00 Трансляцыя паседжанняў сейма. 14 00 Панарама. 16 00 "Тарзан". Серыял вытв. Германіі. 16 30 Летны журнал. 17 00 Дакуменатльны фільм. 17 30 Забаўляльная праграма. 18 00 Дакуменатльны фільм. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 20 00 Кола фартуны. 20 35 Клуб пана Рыся. 21 00 Джаз-Джамборы-94. 22 00 Панарама. 22 35 Аўтажурнал. 23 00 "Злачынства сэрца". Фільм вытв. ЗША. 00 45 Рэпартаж. 01 00 Панарама. 01 05 Спартыўная праграма. 01 15 Джаз-Джамборы-94.

## ПЯТНІЦА, 21.10

### ПРАГРАМА 1

07 00 Кава ці гарбата. 09 00 "Мода на поспех". Серыял вытв. ЗША. 09 30 Праграма для дзяцей. 09 55 Гімнастыка. 10 00 Навіны. 10 10 Праграма для дзяцей. 10 25 Дашкольнікі дома. 11 00 "Маладыя коннікі". Фільм вытв. ЗША. 12 00 Школа для бацькоў. 12 15 Пашый сама. 12 30 Захавасм помнікі. 12 40 Тэлежурнал. 13 00 Навіны. 13 10 Аграбізнэсс. 13 15 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 15 Селскагаспадарчая праграма. 13 45 Якая школа. 14 10 Хто ты ёсць? 14 30 Стан душы. 14 50 Калі не Оксфард, дык што? 15 10 Тэлетурнір. 15 25 Бізнэс па амерыканскі. 15 55 Праграма дня. 16 00 Музычныя тэлетурніры. 16 30 Забаўляльная праграма. 16 55 Музычная праграма 17 00 "Мода на поспех". Серыял вытв. ЗША. 17 25 Для дзяцей. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Тэлежурнал. 18 30 Штотыднёвік культуры. 18 40 Тэлежурнал спажыўца. 19 05 Спадканне уцёмную. 19 50 Сатырычная праграма. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Уладар мух". Камедыя вытв. ЗША. 22 45 Пульс дня. 23 10 Чвэрць гадзіны. 23 35 Справа для рэпарцёра. 00 00 Навіны. 00 15 Блізкія сустрэчы. 00 35 Тэлежурнал. 01 15 "Жанчыны на мяжы нэрвовага зрыва". Фільм вытв. Іспаніі. 02 40 Забаўляльная праграма.

### ПРАГРАМА 2

08 00 Панарама. 08 10 Спорт. 08 20 Курс англійскай мовы. 08 30 Раніца. 09 00 Мясцовая праграма. 09 30 Серыял вытв. Даніі. 10 00 Свет жанчын. 10 30 Дакуменатльны фільм. 11 00 Мультфільм. 11 30 Праграма па заяўках. 14 00 Панарама. 14 20 "Чараўнік з вуліцы вязаў". Серыял вытв. ЗША. 15 10 Тэлежурнал. 15 55 Прывітанне. 16 00 Программа для дзяцей. 16 30 Спартыўная студыя. 17 30 "З дзевяці да пяці". Камедыйны серыял вытв. ЗША. 18 00 Дакуменатльны фільм. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 20 00 Адзін з дзесяці. 20 35 Тэлежурнал. 21 00 Джаз-Джамборы-94. 22 00 Панарама. 22 30 Забаўляльная праграма. 23 05 "Карабель". Фільм вытв. Германіі. 01 15 Панарама. 01 20 Спорт. 01 30 Джаз-Джамборы-94.

## СУБОТА, 22.10

### ПРАГРАМА 1

08 00 З Польшчы. 08 10 Прашу адказаць. 08 25 Усё аб агародзе. 08 50 Агралінія. 09 30 Спартыўны тэлежурнал. 09 55 Праграма дня. 10 00 Навіны. 10 10 Праграма каталіцкай рэдакцыі для дзяцей. 10 35 Праграма для дзяцей. 12 00 Дакументальны фільм. 13 00 Навіны. 13 10 Забаўляльная праграма 13 55 Жывёлы свету. 14 30 Мультфільмы У. Дыснэя. 15 55 Тэлежурнал. 17 00 Краіна. 17 30 Хатнія сцэны. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 45 Забаўляльная праграма. 19 05 "Бэвэрлі Хілз". Серыял вытв. ЗША. 20 00 Дзіцячы тэлежурнал. 20 10 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Парк Горкага". Фільм вытв. ЗША. 23 20 Сустрэча. 00 15 Навіны. 00 25 Спартыўная субота. 00 35 Музычная праграма. 01 20 "Японская статуэтка". Фільм вытв. ЗША. 02 40 "Забоу". Фільм вытв. Германіі.

### ПРАГРАМА 2

08 00 Панарама. 08 10 Аркестровая музыка. 08 30 Такія адзінокія. 08 50 Урок мовы глуханямых. 08 55 Прывітанне. 09 00 Таварыства ў культуры. 09 30 Мультфільм. 10 00 Мясцовая праграма. 11 00 Ваенны журнал. 11 30 Праграма пра жывёл. 12 00 Праграма для дзяцей. 13 00 Акадэмія польскага кіно. 14 45 Дакуменатльны фільм. 15 40 Жыццё побач з намі. 16 10 Спартыўная студыя. 16 45 Студыя другой праграмы. 17 00 Серыял вытв. ЗША. 17 30 Тэлетурнір. 18 00 Вялікая гульня. 18 55 Розыгрыш лато. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 19 30 Семь дзён - свет. 20 00 Тэлетурнір. 20 35 Дзірка ў кошыку. 21 00 Забаўляльная праграма. 22 00 Панарама. 22 30 Слова на нядзелю. 22 35 Музыяны журнал. 23 00 Місс Польшча-94. 23 20 "Па-за закона". Вестэрн вытв. ЗША. 01 20 Панарама. 01 25 Джаз-Джамборы-94.

## НЯДЗЕЛЯ, 23.10

### ПРАГРАМА 1

08 00 Сельская гаспадарка ў свеце. 08 15 Далёка і блізка. 08 30 Тядзень. 09 00 Сельскагаспадарчая праграма. 09 25 Праграма дня. 09 30 Нядзельная кінапраграма. 09 55 Тэлераніца. 10 30 Музычны яшчык 11 05 Серыял вытв. Канады. 12 00 Навіны. 12 10 Дакументальны фільм. 13 15 Телеканцэрт пажаданняў. 13 45 З камерай сярод жывёл. 14 00 Цырк фізікаў. 14 20 Мора. 14 55 У старым кіно. 16 35 Ён ці хто? 17 05 Няма з чаго смяяцца. 17 35 Антэна. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Можна пасмяяцца. 19 05 "Дынастыя Колбі.". Серыял вытв. ЗША. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Па зову сэрца". Серыял вытв. Італіі. 22 00 Спартыўная нядзеля. 22 25 Галівудскія чарадзеі. 22 50 Публіцыстычная праграма. 23 20 Забаўляльная праграма. 00 15 Аб таямніцах. 00 40 "Два твары помсты". Фільм вытв. ЗША. 01 50 Магічны востраў.

### ПРАГРАМА 2

08 00 Рэха тыдня. 08 30 Фільм для глухіх. 09 15 Слова на нядзелю. 09 20 Прывітанне. 09 30 Фестываль Закопане-94. 10 00 Мясцовая праграма. 11 00 Дакуменатльны фільм. 12 05 Мультфільм для дзяцей. 13 00 Камедыя вытв. Англіі. 14 30 Рэпартаж. 15 00 Вандраванне ўчасе і прасторы. 16 00 Тэлетэатр для дзяцей. 16 50 Другая праграма. 17 00 "Як ёсць". Серыял вытв. Польшчы. 17 30 Тэлетурнір. 18 00 Місс Польшча-94. 19 25 Спартыўная студыя. 19 50 Мясцовая праграма. 20 00 Телетурнір. 20 35 Мультфільм. 21 00 Весела ці сумна. 21 50 Фестывальная студыя. 22 00 Панарама. 22 30 Тэлепрадстаўленне. 23 20 "Сямейныя фотаздымкі". Серыял вытв. ЗША. 00 10 Джаз-Джамборы-94. 01 10 Панарама. 01 15 Джаз-Джамборы-94.

